


*Як добра было б знайсці свежага пахучага сена!*

*Фота Р. Сянько.*

**№ 3 (1171) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 20.I.1980 г.**

**А. Вольскі**

# Зімовае сонца

Сонца ў студзені
дурэе —
толькі свеціць,
ды не грэе.

Снег блішчыць,
аж вочы слепіць.
Снежных баб
ніхто не лепіць.

А мароз
сухі і колкі,
точыць тонкія іголкі.

Падыходзіць —
бокам, бокам.
І не ўгледзіш
простым вокам.

Зробіш
тры-чатыры крокі,
пабялеюць нос
і шчокі.

І пад сонцам —
дзіўна як! —
ператворышся
ў лядзяк.

Ясны дзень,
ды невясёлы.
Так здараецца



ў жыцці.
Дзецям
нават
сёння ў школу
не дазволена ісці.

Пацяплела б
хоць бы трошку!
Сумна, крыўдна
аж да слёз.
Шыбы,
нібы
ў класе дошку,
размалёўвае мароз.

І праз гэта
у акно
анічога
не відно.

Толькі недзе апаўдні
дзень зацьміўся яркі,
бо схавала прамяні
сонейка за хмаркі.

Хоць цямней
адразу стала,
ды акно
крыху адтала.

Закружыліся
сняжынкі,
б'юць ціхутка
па акне,
быццам новыя
сцяжынкі
пракладаць
завуць мяне.

Я хапаю лыжы
звыкла
і — за дзверы,
і — далей!..
Вось як дзіўна:
сонца знікла,
а зрабілася цяплей!

# ЧЫТАЕМ і пішам

## Падзяліце словы на склады.

таварышы майка рэйчык
настаўнік дарога лета
фабрыка рабочы канькі

## Дапішыце патрэбныя словы.

Прыйшла халодная ....... На дварэ ....... Дзеці ідуць на ....... Хлопчыкі ўзялі ....... Дзяўчынкі вязуць ....... (мароз, зіма, санкі, каток, канькі).

## Напішыце месяцы па парадку.

Студзень, ліпень, сакавік, май, люты, красавік, чэрвень, снежань, жнівень, верасень, лістапад, кастрычнік.

**Тамара Тарасава**

# КАЗІНЫ КАЖУШОК

Таня мерала новае зімовае паліто, якое толькі што прынеслі з магазіна.

— Ой, якое прыгожае, праўда, мама? — радасна пыталася яна, круцячыся перад люстэркам.

— Прыгожае, — задумліва адказала Аксана Пятроўна. — Насі на здароўе.

Гледзячы на дачку, Аксана Пятроўна ўспомніла сваё далёкае маленства, калі і яна радавалася абнове, толькі не такой прыгожай, як у Тані, а беламу казінаму кажушку. Яна ўсміхнулася.

— Мама, чаму ты смяешся? — запытала Таня.

— Ды так, дачушка. Успомніла сваю абнову...

Ох ужо гэты кажушок! Колькі праз яго было пакут!

Аксанка была яшчэ зусім маленькая, калі пачалася вайна. Таты яна не памятала: ён так і не вярнуўся з фронту. Жыла Аксанка з мамай і бабуляй у вёсцы.

Аднойчы бабуля дастала з гарышча нейкі скрутак, узяла за руку Аксанку і павяла да краўца.

— Трэба пашыць табе кажушок, — сказала яна. — Ідзе зіма, а ты зусім раздзетая.

Па дарозе яна расказала Аксане, што ў іх былі козы, але немцы ўсіх парэзалі. Засталіся вось толькі дзве аўчынкі...

Неўзабаве кажушок быў гатовы. Цёплы, мяккі, ён вельмі падабаўся дзяўчынцы.

Але разам з радасцю прынёс ёй і нямала непрыемнасцей. Асабліва запомнілася першая пасляваенная зіма.

У бабулі не было сваёй каровы, і Аксанка праз усю вёску бегала па малако да цёткі Алены. І ўсё было б добра, каб не злыдзень гусак, які паявіўся ў цёткі ў тую зіму. Аксанка нікому не прызнавалася, што баіцца яго, старалася перамагчы свой страх, бегучы на другі канец вёскі. Але каля самай цётчынай хаты смеласць пакідала дзяўчынку. Яна ведала, што зараз сустрэне свайго ворага. А той як бы наўмысна яе пільнаваў. Варта было Аксанцы падысці да варот, як ён ужо быў тут як тут. Павольна вылазіў з падваротні і, выгінаючы доўгую тонкую шыю, так злосна шыпеў і сыкаў, што ў Аксанкі ад страху дух займала. Яму не падабаўся Аксанчын кажушок.

Моцнаю чырвонаю дзюбаю гусак скуб доўгую казіную поўсць і, сыкаючы, рваў кажушок. Прычым хапаў заўсёды ў адным і тым жа месцы: ля ніжняга гузіка. Нават поўсць тут стала намнога радзейшая і нейкая кучаравая.

Аксане амаль ніколі не ўдавалася ад яго ўцячы. Яна пачынала крычаць. На крык выбягала цётка Алена і вызваляла яе з гусаковага палону.

Так цягнулася да таго часу, пакуль з Аксанкаю не здарыўся выпадак, што назаўсёды ўратаваў яе ад гэтага страху.

Дзяўчынка ўжо хадзіла ў першы клас. Кожную раніцу яна разам з мамаю выходзілі з дому. Маме рана трэба было ісці на работу, і Аксанка да школы ішла разам з ёю.

У цёплае надвор'е Аксана гуляла на вуліцы, чакаючы, пакуль

збяруцца дзеці і адчыніцца школа, а калі было холадна, заходзіла ў невялічкі школьны калідор і чакала там.

Так было і ў той дзень. Мама ўжо гатова была на работу.

— Мамачка, пачакай, — папрасіла Аксанка.

— Ну навошта табе так рана ісці? — запярэчыла мама. — Школа зачынена. Ты толькі намерзнешся. Бачыш, і снегу намяло.

Але Аксанка хуценька сабрала партфелік. Надзеўшы свой белы кажушок і такую ж шапачку, яна выйшла з дому.



Вось і школа. Пуста і цёмна на школьным двары. Святло гарыць толькі ў пакоі прыбіральшчыцы.

Зайшоўшы ў калідор, Аксанка стулілася ў куточку, паставіла партфелік ля ног і, схаваўшы ў рукавы кажушка замерзлыя рукі, стала чакаць.

У калідоры было цёмна.

Потым Аксанка пачула, як шчоўкнуў замок, адчыніліся ўнутраныя дзверы і выйшла прыбіральшчыца. Яна трымала перад сабою вялізную міску з вадою. Раптам цётка Васіліна нема ўскрыкнула і, упусціўшы міску, кінулася ўцякаць. Пырскі вады разляцеліся ва ўсе бакі. Па падлозе расцяклася вялікая лужына. А перапалоханая Аксанка куляю выскачыла на вуліцу.

Адбегшыся ад школы, яна трохі супакоілася, але вяртацца назад баялася. Аксанка ніяк не магла зразумець, што гэтак напалохала цётку Васіліну.

І толькі калі развіднела і пачалі збірацца дзеці, яна пайшла разам з імі.

Першаю, каго ўбачыла ў школе Аксанка, была прыбіральшчыца. Яна ўстрывожана расказвала нешта дырэктару, паказваючы на калідор. Убачыўшы Аксанку, прыбіральшчыца раптам змоўкла і здзіўлена ўтаропілася ў дзяўчынку.

— Гэта ты?! — толькі і вымавіла яна.

— Я, — ледзь чутна адказала перапалоханая Аксанка.

— Дык вось які ён, страх! — весела рассмяяўся дырэктар. — Дык гэта ты напалохала цётку Васіліну?

Пасля гэтага здарэння Аксанка перастала баяцца гусака, які пільнаваў яе кожную раніцу. Цяпер яна зразумела, што яе страх быў нішто ў параўнанні з тым, якога нацярпелася цётка Васіліна. Таму, сустракаючы свайго ворага, дзяўчынка ўжо не крычала нават і тады, калі ён скуб яе казіны кажушок, а смела адбівалася...

...Слухаючы маміна апавяданне, Таня весела смяялася над прыгодамі маленькай Аксанкі.




## ДЫХАННЕ РУЖЫ...

Ці можа ў раслін, як у чалавека, змяняцца тэмпература?

Такое пытанне выклікае сумненне. Сапраўды, калі яны не награваюцца сонцам, то заўсёды халодныя. Аднак ёсць расліны, якія ў пэўныя перыяды свайго жыцця могуць павышаць сваю тэмпературу.

У жывёльных арганізмах цеплыня ўтвараецца ў працэсе дыхання, ад „спальвання“ арганічных рэчываў да вуглякіслага газу і вады. Але расліны таксама „дыхаюць“ і таксама, як і жывёлы, выпраменьваюць энергію, часткова ў выглядзе цяпла. У звычайных прыродных умовах гэта выявіць цяжка. Цяпло выпраменьваецца ў навакольную прастору. Але калі змясціць лісце, кветкі або насенне раслін у тэрмас, то тэрмометр адразу ж пакажа значную розніцу паміж тэмпературай навакольнага паветра і ў тэрмасе.

У доследах прафесара Венскага універсітэта Г. Моліша толькі што сарваныя лісты грушы ў працэсе „дыхання“ павышалі тэмпературу ў тэрмасе да 59°С пры тэмпературы навакольнага паветра 15°. Прыкладна такія ж вынікі былі атрыманы ў доследах з лістамі бука і акацыі.

У кветках і суквеццях некаторых раслін і ў натуральных умовах іншы раз падтрымліваецца павышаная тэмпература.

Яшчэ ў 1777 годзе вядомы французскі вучоны Ж. Б. Ламарк заўважыў, што кветкі італьянскага аройніка цёплыя навобмацак. Доследы пацвердзілі, што тэмпература ў кветках гэтай расліны падымаецца да 40-44° пры тэмпературы паветра 15° С. Дарэчы, кветкі аройніка, што расце на нашых лугах, таксама маюць тэмпературу ўнутры на 10° вышэй тэмпературы паветра.

Ёсць і іншыя расліны з уласнай „тэмператураю цела“: філадэндран, пандануcы, імбірныя сагаўнікі, пальмы, Вікторыя рэгія. Тэмпература ў кветках гэтых раслін на 5-10° вышэй навакольнага асяроддзя.

Як жа вытлумачыць незвычайную з'яву? Можа, гэта — выдаткаванне раслінай непатрэбнай энергіі? Аказваецца, не. Узмоцненае выпраменьванне цяпла — біялагічнае прыстасаванне, каб прывабіць насякомых-апыляльнікаў, асабліва мух, якія імкнуцца да цяпла і такім чынам дапамагаюць перакрыжаванаму апыленню раслін. Насякомыя заўсёды шукаюць цёплае месцайка, асабліва ўвечары і раніцай, калі розніца паміж тэмпературай паветра і тэмпературай іх крыві даволі значная.

З біялагічнага пункту гледжання расліне прасцей прываблівацъ насякомых пры дапамозе цяпла, чым за кошт складаных марфалагічных утварэнняў, яркай афарбоўкі кветак і г.д.

**К. Шарыкаў, біёлаг**

Рыгор Ігнаценка

## ВАВЁРЧЫНА РАНІЦА

На ўзлессі расце старая замшэлая елка. На елцы — гняздо. Зроблена яно з тонкіх галінак і моху. Усярэдзіне выслана мяккім пухам і пер'ем. На дрэве яно здаецца камяком снегу.

Вось з аднаго боку гнязда адваліўся снег. З адтуліны высунулася рыжая галоўка. Вавёрка? Яна самая!

Вавёрка села на зялёнай галінцы каля гнязда і пачала церці мяккімі лапкамі пысачку, за вушкамі, старанна прыгладжваць пушыстую поўсць — нібыта красуня перад люстэркам.

Пад маладымі дрэўцамі ляжыць завалены снегам лоўж. Рыжуха падбегла да яго і нырнула ў снег. Неўзабаве, з жолудам у зубах, паказалася на другім баку лаўжа. Ускочыла на сук, ачысціла жолуд і з'ела. Пасля дастала арэх. Аказваецца, пад лаўжом яе зімовы склад корму, назапашанага яшчэ з восені.

Вавёрка пабегала па лесе, заблытала свае сляды і толькі тады вярнулася ў гняздо. Адтуль акінула позіркам заснежаны лес, а пасля ўзяла ў зубы камячок моху і заткнула ім уваход у гняздо. Каб цяплей было.

Што ж, паснедала, пагуляла, — можна і адпачыць.

## НАЧЛЕГ У СНЕЗЕ

Я ведаў, што шэрыя курапаткі спяць зімою ў снезе. Аднойчы птушкі з такім шумам вырваліся з-пад маіх ног, што я нават спалохаўся. А як яны спаць кладуцца, бачыць не даводзілася.

...З палявання я вяртаўся на захадзе сонца. Ішоў полем. Вечарэла. Мароз шчыпаў за вушы.

Раптам бачу — нешта на снезе чарнее. Прыглядаюся: курапаткі сядзяць.

Падышоў паціху бліжэй. Бачу, што птушкі лапкамі хутка разграбаюць пад сабой снег і апускаюцца ўніз. Вось адна ўжо знікла з вачэй, за ёю другая, трэцяя... Быццам патанулі. Так пад снегам схавалася ўся чародка.

Зімовымі начамі трашчыць мароз, свішча мяцеліца, намятаючы высокія сумёты. Але настане ранак, і курапаткі вылезуць з-пад снегу і пабягуць у хмызняк: карміцца.

Зімовы дзень кароткі. Трэба паспець добра наесціся, каб ноччу не замерзнуць.



## Пазнаёмімся

СССР, 346506, Ростовская обл., г. Шахты-6, ул. Ильюшына, 34, кв. 7. Оля Мирук. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* ✲ *

Міраслава Гноза, Скупава, 59а, пошта 17-220 Нараўка, Беластоцкае ваяводства. Вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

Аз. ССР, 370073, г. Баку, ул. 7-хребтовая, д. 12, квартал 523, бл. 1, кв. 14. Алле Тёркиной. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

Ірына Пракапюк, вучаніца восьмага класа, в. Трывежа 40, 17-212 Ласінка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Марэк Яроцкі, 12 гадоў, в. Майдан, 6, пошта 16-050 Міхалова, Беластоцкае ваяводства.

## НАПІШЫЦЕ

**Усе дзеці добра ведаюць, як цяжка звярам і птушкам перажываць зіму. У многіх школах вучні носяць звярам сена, моркву, буракі, а птушкам сыплюць зерне.**

**Сёння „Зорка“ звяртаецца да ўсіх тых, што памагаюць птушкам і звярам: Напішыце ў „Зорку“, як вы гэта робіце. Чым вы корміце звяроў і птушак, адкуль бярэце корм і дзе яго складаеце, каб звяры маглі яго з'есці. Напішыце аб гэтым і намалюйце вашыя кармушкі. За добрыя, шчырыя апавяданні і малюнкі „Зорка“ прызнае вам цікавыя кніжкі.**

**Чакаю вашых пісем.**

## ЗАГАДКІ

Пячэ сустрэчных, распякае,
А сам ад печы уцякае.

* ✲ *

У хату ціхенька прыйшла
І ўсіх з пасцелі падняла.

* ✲ *

Спачатку топяць — не шкадуюць,
А як патоне, дык ратуюць.

* ✲ *

Вачэй не зацярусіць,
А плакаць прымусіць.

**Павел Шыбут**

## Адгадайка



**Знайдзі на малюнку другога коціка.**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**